# Ад Рэдакцыі.

Дарагія Дзеткі, падпішчыкі і чытачы „Заранкі“.

Мінула ўжо паўгоду з таго часу, як „Заранка“ апошні раз дайшла да Вашых рук. Здавалася, што гэта ўжо канец яе істнаваньня. Праўда ў працягу гэтых даўгіх месяцаў шмат, шмат дзяцей пісала лісты ў рэдакцыю, пытаючыся чаму „Заранка“ ня выходзіць — нават тых — якія зусім ня прыслалі падпіскі. Ужо нераз „Заранка“ пісала і прыпамінала аб тым, што толькі тады зможа яна выходзіць, калі дзеці будуць ня толькі чытаць яе, але і аплачываць. Нажаль ніякае прыпамінаньне не памагала: даўжнікі маўчалі, маўчалі нават тады, калі ім „Заранка“ была спынена. Вось гэта прымусіла яе часова загаснуць. Сягодня, дзякуючы ахвярнасьці нашага сьвядомага беларускага грамадзянства ў горадзе Чыкаго, ў Амэрыце, „Заранка“ ізноў прабуе выйсьці ў сьвет. Кажам прабуе, так, і гэта ўжо апошняя яе спроба: бо калі і цяпер падпішчыкі ня будуць акуратна плаціць і лік іх не павялічыцца, то тады загасьне яна зусім і ніякія высілкі адзінак не змогуць яе ўтрымаць. Толькі грамадой можна вясьці працу. Ведама добра, што дзецям самім трудна здабыць нават гэтых пару залатовак на аплату „Заранкі“, але-ж Вы, Дзеткі, павінны прасіць Вашых бацькоў і старэйшых братоў, каб яны Вам яе выпісалі. Вы павінны растлумачыць ім, што ня толькі даросламу чалавеку патрэбная кніжка і газэта, але і Вам, дзецям, трэба мець адпаведны разрывак і адпаведную страву для Вашыхъ галовак.

Што раз больш нашых вёсак мае бібліятэкі і чытальні. Дамагайцеся, каб кожная бібліятэка, кожная чытальня, выпісала хоць па аднаму экзэмпляру „Заранкі“.

Гэтакім чынам здабудзеце падпіску для „Заранкі“ і запэўніце яе далейшае істнаваньне.

„Заранка“ — чакае.

---

Гэты № рассылаецца ўсім даўнейшым падпішчыкам далейшыя будуць высланы выключна прыслаўшым падпіску

„ЗАРАНКА"

Ілюстраваная часапісь для дзяцей.

Год III. Вільня, Студзень 1929. № I (14).



## Вітаю Новы Год...

Наўкола сьнег пуховы,
На твары сонца сноп.
Я радасны, вясёлы
Вітаю Новы Год.

В сёлкай вочы сьвецяць,
Да сонца песьняй рвусь;
Мне думкі зоры песьцяць,
А сэрца—Беларусь.

Мая ўся радасьць—хата
І белы сьнег палёў..
Ды моцна ў вокнах крата,
Таўста сьцяна муроў.

У Новы Год ўступаю
І ў шчасьце веру я.
Зіма, зіма—я знаю
Там за табой—вясна.

М. Машара.

# Ноч перад новым годам.

Сярэбрачыся зіяньнем дрыжачых зорак
Ноч марозная ціха плыве.

Марозная ноч.. Яскрава-чырвоны пурпур зары на захадзе даўным, даўно пагас, утапіўся ў густой, ваўністай імгле, што прадвесьніцай вялікага марозу залегла з вечара цёмна-шэрым вянком, на краю кругазора. Цёмна-сіняя глубіня, ночнага неба густа, густа засеяна малымі і вялікімі зоркамі, якія ўглядаючыся ў малочную бель заснуўшых палёў, пераліваюцца і дрыжаць многа-хварбным зьяньнем, іскрыстых касуль.

У паветры ціха, ціха... Так выразна чуваць, далёкае, тужлівае завываньне галодных ваўкоў, заядла-трывожная пераклічка вясковых сабак і піскліва скрып саней спазніўшагася падарожніка. Праўда, часам узварушыць гэту цішыню, раскацістым, глухім рэхам, магутны трэск; гэта ўладар сьцюдзёнага царства, сівы дзед мароз, мацуець сваім вандроўным кіём, крыштална-сталёвыя масты рэк і вазёр, а мо‘ паліць з гармат „віваты“ на спатканьне новага году.

Але пакінем краскі зімы, у якіх прыбралася яна відавочна на спатканьне новага году і паглядзім лепш, як спатыкаюць яго людзі.

Вось на высокім берагу Дзісенкі, далёка ад вялікіх гарадоў і дарог, захаваўшыся між лагчын і нязлічаных узгоркаў, пад белым зімовым пакровам, здалёк быццам стада белых авечак,—безладна рассыпаліся вясковыя хаткі. Зімовыя завеі ў сваім буйным разгульлі, навейваючы вялізныя гурбы каля платоў і сьцен,—глыбака засыпалі іх сьнегам. Пасярод гэтых хатак, у‘ючыся з гурбы на гурбу, разляглася вузкая, вясковая вулка, да якой ад кожнай хаткі, як галінкі да дрэва, цягнуцца вытаптаныя ў сьнягу сьцежкі. Хаткі невялікія, некаторыя пахіліўшыся крыху набок, быццам ад цяжару сьнегу наваленага на іх саламяныя стрэхі. Адны блізка ля самай вулкі, другія з сваімі хляўцамі паветкамі і сьвіронкамі, адбегліся значна далей у бок і там сядзяць засыпаныя да стрэх сьнегам. Там-сям стаяць, як вартаўнікі, старыя вербы, раскінуўшы шырака сваё гальлё,

прыбранае сьнежна-пушыстымі карункамі. Дзе ня дзе, ля хаткі глыбака ў сьнягу, стаіць маленькі садок, з густым кустом вішняку ля плоту.

Ціха атуліла сьцюдзёным скрылом гэту вёсачку ясная, навагодняя ноч і як-бы сама прытулілася да яе, падслухоўваючы жыцьцё гэтых пахілых хатак, што блішчаць на сьнежнай белі, быццам водблескі далёкіх зьяючых зор, ці сьветлякі ў траве вясновай парой, агнямі маленькіх, замураваных марозам вакон.

А жыцьцё як-бы замерла, як-бы прытаілася тут у навагоднім чаканьню. Не відаць ніякага руху, ня чуваць ніякага гулу вячэрняй працы. З ніводнай хаткі не нясецца звычайнае ў гэту пару вурчэньне калаўротаў, сабраўшыхся на попрадкі пральляў, ані цяпаньня тапара, ані піскліві сьвіст пілы майструючага нешта гаспадара.

Часамі скрыпнуць нейдзе дзьверы і ў марознай цішы далёка нясецца выляцеўшы адтуль, адгалосак адарванай гутаркі.

Кожны селянін, сёньня загадзя стараўся закончыць усю працу, бо-ж вечарам багатая куцьця. Гэта-ж адно з гадавых ўрачыстых сьвяткоў, як радаўніца, дзяды і другія сьвяткі, урачыстая павага якіх уяўляецца ў тым, што па закону адвечнага звычая, кожны селянін стараецца зрабіць як найбагацейшую вячэру, дазваляючы сабе не часта спатыканыя збыткі ў яго жыцьцю,—смачна паесьці.

З гэтых сьвяточых звычаяў, асабліва выдзеляецца роскашай, навагодная куцьця, — недарма-ж яна завецца багатай куцьцёй.

Але мы адыйшлі ад мэты. Нам трэ жывыя абразкі жыцьця і настрою, у якім спатыкаюць жыхары гэтай вёскі Новы Год.

Вось перад намі недалёка ад вулкі, адна з лепшых хатак гэтай вёскі ветліва блішчыць аганькамі вакон, як-бы запрашаючы да сябе змучанага падарожніка, абяцаючы гасьціны прыём, цяпло і супакой.

Дык зайдзём.. Хатка досыць абшырная. Правы куток ад парога амаль увесь займае вялізная пабеляная вапнай печ. Супроць яе ў другім кутку, пад абразамі, пакрытым белым як сьнег ручніком, стаіць маляваны чырвонай хварбай стол. Надім вісіць лямпа, ад стала ўдоўж вылепленых

белай сьвежай паперай сьцен цягнуцца чыста вышараваныя лаўкі. Па чыста вымытай падлозе ўсюды раскінуты дробна пасечаныя яловыя лапкі, ад якіх у цёплым паветры хаткі прыемна пахне смалой.

У двух другіх куткох стаяць, засланыя ўзорнымі дыванамі ложкі. На адным з іх ляжыць гаспадар, яшчэ не стары, поўны сіл мужчына.

Ен недаўна прыехаў з лесу, дзе вазіў на сплаў бярьвеньня. Сёньня, завёзшы апошні воз, доўга ждаў платы за папярэднюю працу і дзеля гэтага спазніўся. Прыехаўшы да дому, гаспадар крыху перакусіў і лёг спачыць

Гаспадыня штось яшчэ прыберае, штось варыць каля печы. А на печы, у белай, палатнянай кашулі, лысы з сівой невялікай бародкай, зьвесіўшы зграбна апранутыя ў ліповыя лапці з белымі новымі ганучамі ногі на пяколак, сядзіць старенькі дзед, — бацька гаспадара. Каля яго навокал сядзяць унукі. Меншага сваяго пястунка, Юрачку, хлапца гадкоў трох, дзед трымае на каленях. Водаль, на каптуры, падабраўшы пад сябе лапкі, мурлыкаючы сваю ціхую манатонную песьню, сядзіць любімец дзетак, чорны таўсты кот.

Дзеткам вельмі нудна чакаць на гэтую „багатую куцьцю“, для якой маці прышыкавала столькі прысмакаў. Каб хутчэй скаратаць час, яны засыпаюць рознымі пытаньнямі дзеда.

— Дзядулька, а пашто кладуць на багатую куцьцю на стол, пад абрус сена?—пытае бальшак Янук. Яму мінула ўжо 8 гадоў, ён ужо ходзіць у вясковую школу, — з чаго вельмі горды і паважна задае свае цікавыя пытаньня дзеду.

— Га?.. што казаў?... — пытаецца замест адказу дзед. Ён крыху глухаваты. Янук панаўляе пытаньне,

— Сена... Сена, а гэта для таго, што Хрыстос нарадзіўся на сене.

— А дзядулька казаў, што на калядную куцьцю кладуць дзеля гэтага сена, а сёньня багатая — дапытываецца Янук.

— Гэта ўсё роўна, сена, заўсёды, на куцьцю кладуць дзеля гэтага, бо такі звычай з даўна, — тлумачыцца дзед. Янук не зусім задаволены, хоча пытацца далей, але яго перабівае Галінка, меншая сестра Янука.

— Дзядулька, а чаму яна завецца „багатай“?

— Багатай?... Ды вось затым, што ёй людзі спатыкаюць Новы Год, які прыносіць шмат багацьця і шчасьця таму, хто добра яго спатыкае.

(Працяг будзе).

Карл Эвальд.

Пераклаў А. Войніч.

# Зямля і камэта.

(Глянь кніжку 8)

„Як маешся камэта!“ гукнула зямля. — Вітаю, вітаю! Я вельмі рада, што бачу цябе такой вясёлай і здаровай, як даўней“.

Аднак камэта не адклікалася. Зямля паздароўкалася яшчэ раз, але ніякай адповедзі не дастала. Тады здзіўлена запыталася:

„Што ў ліха сталася з камэтай? Ці яна так згардзела, што на‘т з старой знаёмай ня хоча прывітацца?“

„Яна мусіць вас ня бачыць!“ — трывожна заўважыў месяц. — „Падумайце толькі якая вы маленькая““

„Маўчы і рабі сваю работу“!—загрымела на яго земля. І далей клікала:

Камэта! Камэта! Камэта!

А камэта плыла сабе спакойна і ніводным слаўцом не абзывалася. Тады зямля перапалохалася, думаючы, што камэта паляціць, не пагаварыўшы з ёй і чуць не заплакала. Бо гэта ня жарты, калі цэлых трыста гадоў чакаем на гутарку з нейкім чалавекам, а потым ён ня хоча, з табой нават прывітацца!

„Гэй, камэта!“ — клікала яна тужлівым голасам. — „Пэўна ты хочаш перайсьці каля маіх варот і не паздароўкаешся са мной? Гэта-ж я, твая прыяцелька земля, хіба ты запамятавала мяне? Ты была міліёны міль у дарозе.. Ці яно не так, як я прарақавала: нідзе няма такіх, як я!“

„Ого“ — загаварыла камэта.

„Ах, скажы, няхай ведаю“,— прасіла зямля — „пакуль

што я вельмі цешуся, што ты не забылася гаварыць. Расказывай! Можа хочаш мяне перакканаць, што нейдзе ў сусьвеце ёсьць такія-ж вялікія, глыбокія моры, такія-ж прыгожыя лясы і вялізарныя пальмовыя гаі?“

„Ха! Ха! Ха!“—зарагатала камэта.

„А людзей хіба ты не спатыкала?“ — пыталася зямля далей.



„Ха! Ха! Ха!—Ха! Ха! Ха!“

Камэта сьмяялася аж галава і хвост хісталіся ў яе. Зямля пачула праўдзівую абразу. Яна думала, ці няма ў яе чаго такога, каб зьдзівіць камэту. Нарэшце шумліва запыталася:

— „Хіба ты нідзе ня бачыла дурняў?—А што?“

„Ха! Ха! Ха!—Ха! Ха! Ха!“

Камэта так галосна зарагатала, што згубіла адзін хвост. Зямля перапалохалася, а людзі на зямлі, каторыя ўсё гэта бачылі праз свае тэлескопы, былі вельмі зьдзіўлены; такой зьявы яны яшчэ ня бачылі. Камэта сьмяялася і сьмяялася без перастанку. Ужо згубіла другі хвост, ужо трэцьці... і рассыпалася на ўсе бакі. Цэлы прастор напоўнілі іскры, каторыя разьляцеліся на лева і на права; некалькі ўпала вялікімі каменьнямі на зямлю і адзін пацалаваў разумнага чалавека ў галаву і зваліў яго разам з яго тэлес-

копам на зямлю.

Як прайшла гэтае вялікая агнявая зьява, не стала сьледу з камэты.

„Яна трэснула праз сваю заразумеласьць“, — сказала зямля. — Адно толькі мяне гневае, што яна мне не расказала таго, што бачыла ў часы сваей падарожы“.

„Вось-жа... каб крыху, а ўжо-б былі даведаліся!“ — сказаў месяц і весела падсьміхнуўся, бо ён быў ізноў у поўні

Але зямля сярдзіта закрычала: Зьбірайся! Трымай язык за зубамі і рабі сваю работу: Як я абыйду раз навакол сонца, ты павінен абкруціцца трынаццаць разоў навакол мяне, бо інакш календар будзе ў непарадку“.

—) Канец (—

---

Малады Дзядок.

## „Казка“.

У небе серабранай касой
Прарэзаў месяц цёмны хмары,
І паліліся паласой
На землю казачныя чары..

Бліснула ў возеры вада,
Як шкло, пры месячкавым зьяньні...
Зялёных жабаў чарада
Распачала свае пяяньні.

Крычыць Лясун ў глухім бары,
Туруюць соваў ў тахт чароды;
Да самай ранічнай зары
Русалкі водзяць карагоды.

Як зьмеі ўюцца да зары
Свабодна, вольна духі леса,
Аж, прыйдзе дзеннай час пары,
І спадзе ночы запавеса...—

. . . . . . . . . . . . . . . . .

У небе серабранай касой
Усьцяж рэжа месяц цёмны хмары...
І льлюцца сіняй паласой
На землю казачныя чары.

10.XI 1928.

# Папера.

Час ад часу на вуліцах нашых вёсак зьяўляецца гэтак званы „рызьнік“. Гэта, найчасьцей, стары жыд, Худым, замораным конікам аб'яжджае ён вёскі і мястэчкі, скупляючы розныя ганучы, усялякае старое рызьзё; ў большасьці выпадкаў ня плоціць ён грошы, а дае ў абмен іголкі, ніткі, гузікі і другія подобныя драбніцы. Нашыя жанчыны, спадзяючыся рызьніка, не выкідаюць найменьшай рызінкі, найменьшага абрэзку, а ўсё складаюць у мяшок, каб пасьля абмяняць на карысныя рэчы.—У вялікіх местах ізноў, у працягу вясны, лета і восені, старыя людзі і дзеці чуць сьвет, з мяшкамі на плячах і з кіёчкамі ў руках абходзяць ўсе сьметнікі ў панадворках дамоў і там выцягіваюць ды выбіраюць усе найдрабнейшыя кусочкі розных тканінаў старых і новых. У вас, дзеці, напэўна зьяўляецца пытаньне: на што ім гэтае разьзё? што яны, і стары рызьнік і дзеці з ім робяць? А вось: прадаюць усё сабранае ў хвабрыкі паперы. Так, з гэтых старых, брудных, разнакалёрных шматкоў людзкі творчы розум змог зрабіць белую, гладкую, прыгожую паперу, на якой мы пішам, рысуем, на якой друкуюцца кніжкі. Цікава вам, як гэта робіцца? — Насамперад, усе шкуматкі старанна перабіраюцца: адкідаюцца суконныя, а астаўляюцца льняныя, баваўняныя, шаўковыя і г. д. Далей яны мыюцца, выварваюцца, ізноў перамываюцца ў цёплай вадзе і тады ўжо зусім чыстыя кідаюцца ў асаблівую машыну г. званы „галандар“, які іх разьдзэрае і пярарабляе у „поўмасу“, нешта падобнае да цеста. Гэтую масу беляць пры помачы розных сумесяў. Калі яна ўжо зусім гатовая, з яе робяць паперу, спосабам ручным або машыновым. У першым выпадку невялікі лік зусім чыстай масы кладзецца на прастакутнае мэталёвае сіта, якое прыводзіцца ў адпаведны рух: вада сьцякае, маса раўнамерна раскладаецца на сіце і атрымліваецца

аркуш паперы, грубіня якога залежыць ад ліку ўзятай масы. Але-ж гэты аркуш яшчэ мокры. Яго моцна сьціскаюць паміж двумя кускамі сукна і пасьля высушваюць у сушарні. Высушаную паперу „праклеіваюць“ г. значыць мочаць яе ў рэдка разьведзены з вадой клей з мэтай зрабіць яе калянай і не прапускаючай чарніла. Папера, робленая такім ручным спосабам, завецца „чарпанай“.

Машыновым спосабам папера робіцца шмат хутчэй. Папяровая маса безперарыўна падае на безканцовае мэталёвае палатно, якое ні на сэкунду ня спыняецца, адначасна сьцякае вада. Безканцовы аркуш паперы праходзіць далей паміж двума мэталёвымі нагрэтымі цыліндрамі, якія яе спрасоўваюць, сушаць і даюць ей глянс. Праклеіваюць паперу ў гэтую-ж самую пару, дадаючы да масы сумесь смалы, соды і крахмальнага клею. Разнароднасьць паперыаграмадная. Вырабляецца папера: газэтная, канцэлярская, паштовая, упаковачная, папера для аклеіваньня сьценак, тэктура і шмат, шмат іншых. Запатрэбаваньне паперы ў нашыя часы такое вялікае, што аднаго рызьзя нiяк-бы не хапіла. Дзеля гэтага горшыя гатункі паперы вырабляюцца з дрэва, (сасны, ліпы, таполі), саломы, асакі, чароту, торпу, а таксама з адпадкаў самой паперы.

Як бачым, на тое, каб мы мелі сшыток для пісаньня, кніжку, або нават кусочак паперкі на якую-небудзь цацку, шмат трэба ўжыць featureзнага матэр'ялу і многа людзей мусіць ахвяраваць сваю, няраз цяжкую, працу.

Л. Войцікава.





# Працы нашых чытачоў.

## На Палесьсі.

(Глянь кніжку 3 і 4 1928 г.).

Ту, гу-у-у-у!! разлёгся востры сьвіст паравозу, і гэты сьвіст паляцеў па палескім лесе далёка, далёка, нідзе не знаходзячы сабе прыпынку. Гэты раптоўны сьвіст будзіў са смачной драмоты ў цяньку дрэваў птушак і яны перапалоханыя пералятали з дрэва на дрэва, з куста на куст. Рэха ад сьвісту паравозу няслося замнога дзесяткаў кілямэтраў ад жалезнай дарогі і там дзесьці гінула ў безмежных балотах Палесься.

Сьвіст — гэта быў першы сыгнал, што цягнік хутка прыйдзе на станцыю. Дзеля гэтага пасажыры ў вагонах заварушыліся: каму трэба было злазіць на тэй станцыі, то той складаў свае рэчы. Пачалі зьбірацца і мы, бо гэта была апошняя станцыя нашай дарогі. Яна называлася Малькавічы. Назву атрымала ад вёскі, каторая знаходзіцца недалёка ад яе. У гэту вёску мы і ехалі. Яна была першым пунктам нашай падарожы.

Не пасьпелі мы сяк так прыбрацца, як водаль можна было ўбачыць станцыю, да каторай з шалённай скорасьцяй прыбліжаўся цягнік. За мінутку ён быў каля станцыі. Як хутка ляцеў, так-жа раптоўна і стаў. Заварушыліся людзі: адны высядалі, другія ўсядалі. Я з дзядзькам вылезьлі з вагону і пачалі разглядацца ці няма нікога з тае вёскі, у якую мы ехалі. Аж к вялікай наша радасьці, мы ўбачылі некалькі мужчын, хлапцоў і дзяўчат. Падыйшоўшы да іх мы весяла прывіталіся і пайшлі разам у вёску, да каторай было кілямэтраў са тры.

Хлапцы-паляшукі былі хлапцы здаровыя, амаль аднаго росту. Вопратка на іх была простая, без ніякіх прыкрасаў.

На нагах мелі па большай часьці лапці, але некаторыя мелі і боты. Іх твары былі спакойна-вясёлыя, і нічога не здраджвала, што ім тут дрэнна жыць. Наадварот, яны былі вясёлыя, шматгутарныя, і глянуўшы на іх, сказаў-бы, што яны вельмі шчасьлівыя.

Дзяўчаты амаль ня ўступалі ў сіле хлапцом. Глянуўшы на іх вопратку, мімаволі падумаеш: якія вы шчасьлівыя што да вас яшчэ не дайшла гарадзкая культура, што яна яшчэ не апутала вас, што вы яшчэ не знаеце, што такое парыская, ці якая другая мода. Іх здаровыя рукі сьведчылі, што яны ні на шаг не адступаюць ад мужчын, і йдуць поруч з імі ў усялякай рабоце.

—„Што ў вас чуваці?“ — запытаўся малады паляшук. Мы яму адказалі і запыталіся, што ў іх, і гэтак у нас завязалася гутарка, каторая цягнулася праз усю дарогу.

Ідучы дарогай мне прыйшло на памяць, што некалі па гэтых самых мяйсцох хадзіў наш найвялікшы паэт, Якуб Колас, калі ён тут вучыў дзяцей. Мне ўспомніліся ўсе тыя апісаньні, якія я чытаў у яго творы „У палескай глушы“, і было вельмі міла мне самому бываць тут.

Ідучы праз лес, мы бачылі маленькія палянкі поля, акружаныя кругом лесам. На іх расло жыта, авёс, а часамі і бульба. Як я пасьля даведаўся, дык гэтыя палянкі належалі да паляшукоў. Яны палавіну свайго поля маюць пры вёсцы, а другая палавіна паміж лесу ды балота.

—„У вас ужо і стагі на балоце стаяць, а ў нас толькі што пачынаюць касіць“ — сказаў я, убачыўшы на балоце каторае ўпіралася адным канцом у дарогу, стагі, а каля іх паляшукоў з косамі ды граблямі.

—„Ужо даўно-бы нарабілі сена, каб ня гэты дождж— сказаў хлапец. — А на Палесьсі, калі дождж пойдзе, дык вада заліе ўсе сенажаці, і тады касі як хочаш. У вас пэўна ляпей“.

—„Дзе яно ляпей! таксама, як дождж калі ўлетку йдзе то людзі не наробяць сена, пагніе ўсё — адказаў я.

—„Калі і на далей так будзе дождж ісьці, то дрэннае будзе сена“—сказаў старэйшы хлапец.

Вядучы гутарку пра сенакос, мы падыйшлі пад вёску.

**Янка Патаповіч.**

(далей будзе).

# Песьня.

Па шырокай Беларусі,
Няхай песьня паляціць,
Хай ў траўцы зашапоча,
Каласамі зашуміць.

Хай прабудзіць яна рэха
Сярод вёсак, гарадоў,
Хай упадзе людзям ў сэрцы,
Разхвалюе ў жылах кроў.

Хай ляціць праз сенажаці,
Цёмным лесам здрыгане.
Усё гора, ўсю нядолю
З Беларусі пры жане.

А. Бярозка.

---

# Апісаньне вёскі Ахонава.

Вёска Ахонава ляжыцъ з поўначы-ўсходу на поўдня-захад, у вельмі прыгожай мяйсцовасьці. Ляжыць яна якраз там, дзе Наваградзкае ўзгор'е пераходзіць у Наднёманскую нізіну. З поўдня и з усходу мяйсцовасьць гарыстая, парэзанная далінамі, якімі сьцякаюць дажджавыя і веснавыя воды.

Стаўшы на поўднёвым узгорку бачыш Наваградак і руіны замку. Можна было-б відзець Нёман, але яго закрывае лес, які раскінуўся ўздож ягонага берагу. Глянуўшы на поўдня-захад, убачым адкрытыя акругляныя ўзгоркі таго самага Наваградзкага Узгор'я каля места Дзятлава. На такім узгорку вышэйшым у нашай ваколіцы пабудаваны нямецкімі жаўнерамі ў 1915 годзе маяк. Вёска наша вялікая, у поўтараста хат з лішкай. Пабудавана пры старым гасьцінцу, абсаджаным бярозамі з Кацярынінскіх часоў. Гістарычных памятак у Ахонаве шмат. Зусім блізка ад вёскі, у т. зв. Шупінай Вомшары, ёсьць тры курганы, памяткі Швэдзкай вайны. Курганчыкі гэтыя ляжаць у далінцы, як-бы вастраўкі

сярод мора—лесу. Вёскаю Ахонавам уладаў уніяцкі архіяпіскап Салтан, які пабудаваў у блізкім мястэчку Дзятлаве прыгожанькі палацык, у якім цяпер месьціцца дзіцячы прытулак. Якраз сярод вёскі быў ягоны двор, а цераз вуліцу—сад, які цягнуўся пад гару балей чым на кілямэтр. Апошнюю грушу з ягонага саду зрэзалі перад вайной. Другі двор быў у ведамай у нас Струзе, які належаў да ксяндзоў уніятаў, потым да праваслаўных. У кірунку заходнім ад вёскі, у ўрочышчы Расоўскім, пасярод сенажаці на грудку, як ведама, па апавяданьням старых людзей і відаць па застаўшымся каменным фундаменце, стаяла вялікая адрына таго-ж самага магната Салтана, у якой складалі сена. Даўней у Ахонаве была ўніяцкая царква і вера, мусіць, была ўніяцкая, але за маскоўскіх часоў усё жыхарство стала праваслаўным і такім асталася да сёньняшніх дзён. Царскі ўрад на свой кошт перад вайной пабудаваў вялікую царкву, але яна пасьля трохгадовага істнаваньня згарэла ад перуна. Цяпер ёсьць нявялікая царкоўка, а на мейсцы згарэўшай, пасярод грузаў фундамэнту і цэмантовых сходаў, вырасла прыгожая кудзярка бярэзьнічку. Перад вайной у Ахонаве была 2-х клясовая школа, з лавак якое ішло далей у навуку шмат людзей. Цяперака ёсьць школа польская.

У канцы сяла ў бок Дзятлава праходзіць чугунка, а ў водаль, кілямэтраў са 3, ёсьць паўстанак Яцукі. Сусьветная вайна нарабіла нашаму сялянству шмат гора: выгнала з сваіх наседжаных гнёздаў і зьніштожыла амаль што не паўвёскі.

Цяпер наша вёска пазнала сябе і пашла шпаркім крокам наўперад па дарозе нацыянальнага адраджэньня. Гурток Т-ва Беларускае Школы ладзіць спэктаклі ў сваёй вёсцы і выяжджае ў другія.

Сяргей ЛОГАШ.

Дзятлаўскай гм., Навагрездзкага пав.

# Загадкі і круцігалоукі

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | с | | | | |
| | | | | с | | | | |
| | | | | б | | | | |
| | | | | б | | | | |
| а | а | у | у | л | к | к | я | я |
| | | | | л | | | | |
| | | | | о | | | | |
| | | | | о | | | | |
| | | | | к | | | | |

## Круцігалоўка крыжыковая.

Зьмешчаныя ў клетках літары папераставляць так, каб можна прачытаць з гары ўніз і з-лева на права псэўданім вядомага беларускага паэта.

(Злажыў А. Бярозка).

## Загадка.

Чацьвёра радні: адна
ўсё пьець — не напьецца як сіта.
Заўсёды галодны другі,
ўсё зьесьць — не наесцца да сыта.
У трэцьцяй мурашкі ў нагах,
бяжыць і ўсё нешта шукае;
Чацьвёрты ізноў ўвесь век;
І вее, і сьвішча й лятае.

(Падаў А. Бярозка).

## Загадкі.

1) У адным месьце крыжоў двесьці.
2) Адным паяском тысяча салдатаў зьвязана.

(Падаша Маня Ласька).

---

## Разгадкі загадак з кніжкі 4-ай 1928 г.

**Рассыпанка.**

Вучыся, нябожа, вучэньне паможа
Змагацца з няволяй з нядоляй,
Што мучыць сягоньня, што думкі трывожа
Зьбяжыць і не прыйдзе ніколі.

**Круцігалоўка з літараў.**

| | | |
|---|---|---|
| н | о | с |
| о | с | ы |
| с | ы | н |

**Загадка.**

Цыфру восем прарэзаць
ўперак на палову.

# Падзяка.

Рэдакцыя „Заранкі“ ад свайго імяні і ад імяні сваіх чытачоў прыносіць гарачы „дзякуй“ усім паважаным ахвярадаўцам, якія злажылі свае шчырыя ахвяры на карысьць выдавецтва „Заранкі“.

— Ахвяры, сабраныя ў Амэрыцы, у гор. Чыкаго, праз нашага шчырага прыхільніка гр. А. Татарына.

Злажылі іх наступныя асобы:

Гр. гр. Андрэй Татарын — **5 даляраў**, Міхал Бабіла— **4 даляры** Юліян Крыўда, Мікалай Мацьвейчык і Васіль Чурыла — **па 2 дал.**, Марта Казлова, Рыгор Казлоў, Амілія Томко (полька), Аляксандар Дараховіч, Джан Галубычка (славак), Язэп Канстантыновіч (паляк), Тодар Ліхота, С. А. Клімкоў, А. Бойда, Раман Рыбак, Апанас Захарчук, Марыя Татарын, Антон С. Ламека, Зьмітро Куль, Лукаш Шалесны і Пётр Ламека — **па 1 даляру**. Сьцепаніда Куль, Марта Штэйнке (немка), А. Румак, С. Мельнік, Т. Брункала (паляк), Тодар Рыбак, Мікалай Сурын, Ян К. Ламека, Антон Тамашоўскі (паляк), Антон Чысельскі (паляк)—**па 50 цэнт.**. Джэк Келье (амэрыканец) і Невядомы — **па 25 цэнт.**

Усяго: 37 даляраў 50 цэнт. — 1 даляр 50 цэнт. за перасылку грошы. — Атрымана **36** даляраў.

Рэдактар-Выдавец Л. Войцікава. Друк. Я. Левіна Вільня

# Наша пошта.

**„Маладому Дзядку“.** Рэдакцыя „Заранкі“ ад сябе і ад імяні сваіх чытачоў просіць Вас аб далейшае ласкавае супрацоўніцтва. Чакаем чаго-небудзь у наступны №.

**Цыпрыяну Пыску.** 1 злот. у месяцы красавіку 1928 г. атрымалі і быў высланы Табе № 4 „Заранкі“ за м. чэрвень 28 году. Ад таго часу „Заранка“ ня выходзіла. Цяпер пачынае ізноў друкавацца і будзем Табе высылаць. Прысылай далейшую падпіску і старайся прыдбаць нам новых падпішчыкаў.

**Сярожы Пастушку“.** Да гэтай пары ня было магчымасьці знайсьці і выслаць Табе кніжку, аб якую Ты прасіў. Як толькі знойдзем яе, зараз вышлем. За прададзены „спарынец“ атрымалі 2 зл. 25 гр. У гэтым годзе яго вельмі многа было і дзеля гэтага ён такі танны. Ці ўжо вучышся ў сталяра? Пішы ў „Заранку“.

**„К. Думнаму“:** Тваю працу „На начлезе“ і Круцігалоўкі атрымалі; у свой час зьмесьцім. Старайся, каб Ваша бібліятэка-чытальня выпісала „Заранку“.

**„А. Бярозцы“.** Твае загадкі па крысе зьмяшчаем. Прысылай больш. Ці ў Вашу вёску ідзе „Заранка“?

**А. А—а** Адзін з вершаў зьмяшчаем, зрабіўшы некаторыя папраўкі. Старайся шмат пабеларуску чытаць і зьвярні большую ўвагу на правапіс, бо робіш шмат памылак.

**Я Патаповічу.** Прышлі працяг свайго апавяданьня.

**„Марусі з Антокалю“ і „Аксане“.** Пішыце ў „Заранку“ што-небудзь з школьнага жыцьця.

